# THE ULTIMATES

## 6. Волат супраць Асы








LEVEL G
LEVEL B-2
LEVEL B-7
Ведаеш, нейкая частка мяне адчувае віну за ўсё, генерал.


LEVEL B-12
Гэта не ты руйнавала ўсе гэтыя будынкі, Бэцці.
Не, але ўсё гэта з **Брусам**... я змешвала яго з брудам, праводзячы час з **Фрэддзі Прынцам**. Я сапраўды лічу, што стала апошняй кропляй у яго цярпенні.
Цяпер, калі я бачу яго ў аддзяленні, якое ён сам спраекціраваў, нямоглага і пакутуючага ад траўмаў, атрыманых **Халкам**...
...я толькі здзіўляюся ад таго, што хтосьці мог **жадаць** мяне так, як ён.
Гэта вельмі **пахвальна**, згодны са мной?
Так, але ёсць даволі цяжкая задачка: як патлумачыць усё, што здарылася, і прадставіцца ў СМІ ў такім выглядзе, каб не нашкодзіць **Альцімэйтс**, каб не паказаць іх поўнымі ідыётамі?
Ды ну цябе, Нік. Усё ж проста...
...Варта толькі перарэзаць усе сувязі з **Брусам Банэрам** і твае дробныя звышлюдзі ўвойдуць у гісторыю, як героі, якія выратавалі Манхэтан.


Як сябе **адчуваю**?
Што ж, мае рэбры зламаны, мой нос вывіхнуты і мая правая рука, здаецца, у недзеяздольным стане, але ўсё гэта будзе ў норме ўжо праз дзень ці два, мэм.
Ці **спужаўся** я Халка? **Шчыра** кажучы, я дрыжаў як **ліст**, даражэнькая.
Не да месца будзе сказана, канешне, але сёння ўвечары я пэўна перакульну некалькі фатэляў «Датскай адвагі» на дэгустацыі він. Відаць, я злёгку прыхварэў пасля ўсяго, што здарылася.
GAP
Не, тое, што я дапамагаў Альцімэйтс, **не значыць**, што я стаў адной з пешак у **Суперкамандзе** Буша, містар Стэрн.
На вашу думку: спыніцца і дапамагці рэкламнаму магнату замяніць кола адразу ж будзе азначаць, што вы на баку Проктэр анд Гэмбл?
Ох, не хвалюйцеся за **Волата**, Опра. Смею запэўніць, што мой муж застанецца такім жа **прыгажунчыкам**.
Гэта магло адбыцца і значна раней, чым ён атрымаў здольнасць **павялічвацца ў памерах**, але яго **эга** перавысіла гвалт.


Трыкселіён:
Сняданак у Рэгіса, абед разам з FHM і прыватная вячэра ў рэзідэнцыі **Тоні Старка**?
Яна гуляе са **знакамітасцямі**, як калісьці ў дзяцінстве з **лялькамі Барбі**, місіс Пім.
Шчыра кажучы, гэта выдатная прычына, каб прыгожа апрануцца і выйсці ў людзі, Нік. Хэнк звычайна ў пятніцу па вечарах браў фільм на пракат і перакус у якой-небудзь карчме.
Ты сапраўды лічыш, што Тор прыйдзе на гэты вечар у гальштуку?
А чаму б не? Відаць, Тоні з Торам зблізіліся пасля той гісторыі з Халкам, генерал.
Кэп сказаў, што яны смяяліся і жартавалі напрацягу паўтары гадзін.
Так-с.
І што ж гэта значыць?
Банэр і я страцілі шэсць месяцаў, упрошваючы Тора ўступіць у каманду, і адзінае, аб чым мы не здагадаліся – запрасіць яго на абед.


Рэзідэнцыя Тоні Старка, Парк Авеню:
Ведаеце, я так бясконца рады бачыць вас зноў, рабяты, што нават не сказаць словамі. Сутычка з Халкам некалькі тыдняў назад была адной з самых хвалюючай ў маім жыцці.
Вы ўжо бачылі ролікі «Абароны»? Як Кэп бамбіць з танка? Ці як я заганяю Банэра ў будынак Гранд Цэнтрал?
Божа, не дзіўна, што яны прадалі пятнаццаць мільёнаў копій DVD. Гэта неверагодна.
Ты лічыш, людзі заставаліся б такімі ж шчодрымі, калі б даведаліся, што **Халк** і **Брус Банэр** - адна асоба, Старк?
Ох, Кэп, ну што ты адразу... Што з таго, што піаршчыкі забылі некаторыя дэталі, але мы ж уратавалі горад, згодны?


Усе людзі хочуць быць упэўненыя, што яны могуць спаць спакойна. Ты сапраўды хочаш парушыць гэты спакой з-за аднаго пракола?
Не, але я хачу заявіць, што мяне зусім **не цешыць** гэтая падзея, Старк.
Добрая заўвага, містар Роджэрс. Добрая.
Навошта гэтыя скрыні? Пераязджаеш, Тоні?
О не. Ні ў якім разе, Тор. Я набыў гэты дом для маёй даражэнькай маці з першага **заробленага** мільёна. І я не прадам яго нават за ўсю гарбату ў Кітаі.
Я пачаў займацца аздараўляльнымі практыкаваннямі.
Ідэю пра гэта я вычытаў у адным часопісе, дзе распавядаюць аб тым, як ты ачысціў свой розум ад таго, чым ты не карыстаўся на вялікай уборцы Зямлі.
Вы не паверыце, колькі ўсяго назапасілася ў вашага таварыша **п'янчугі-міліярдэра**... Пікаса, Д.І.Джонс, хронікі Другой Сусветнай Вайны, карты з Капітанам Амерыкай...


Яны зрабілі карты са мной?
Баюся, усё з-за **літасці**. Але калі я не памыляюся, яны не так папулярны, як **яйкі Фабержэ** і **легенды Плэйбоя**.
Вам сорамна за тое, што вы не прынеслі вячэрняе адзенне вашай маці толькі таму, што лічыце яе не моднай, а Майстар Тоні?
Божа літасцівы, ты зноў за сваё.
Я лічыў, што цябе з намі не будзе, Джарвіс. Няўжо ты не збіраўся ісці сёння ў клюб з **Альфрэдам** і астатнімі старыкамі?
О, я адмяніў усё, калі стала вядома, хто да нас прыйдзе ў госці, спадар Тоні. Нават клюб не зможа параўнацца з Суперсалдатам і богам Асгарда.
Ведаеш, ты дарэмна марнуеш час, Джарвіс. На тваю думку, **Капітан Амерыка** і **Тор** заўважылі тваю новую недарэчную камізэльку?
**Пачакайце**, малады спадар. Пачакайце. Ці ведаеце што, я адчуваю сябе вельмі шчаслівым у гэты вечар.


Дом Хэнка і Джанэт Пім:
О, дзеля бога, Хэнк.
Я лічыла, што ты не збіраешся сёння **працаваць**. Ты ж заўсёды павольны і шкодны, калі **засядзеш** у сваёй лабараторыі.
Шчыра кажучы, я **не збіраўся** ісці да Старка, Джанэт. Я сказаў Ф'юры, што сустрэнуся з ім на гэтым тыдні, каб абмеркаваць новы шлем **Чалавека Мурашкі**. І я сапраўды хачу паспець закончыць яго мадыфікацыю.
Ну жа, Хэнк. Гэта не так ужо **і важна** пакуль.
Калі ты пакрыўдзіўся з-за таго, што быў пабіты **Халкам**, тады гэта выглядае вельмі глупым. Ты быў неверагодным, мілы. Вельмі, вельмі адважным.
Не хвалі мяне, Джэн. Божа, чыму ты так робіш, ведаючы, што я адчуваю сябе ў гэты момант **ідыётам**?

Ты нават не хочаш сказаць, што я добра **выглядаю**?
Не прымушай мяне **казаць** тое, чаго ты не хочаш чуць. У гэтым **станіку** і высокіх абцасах для **Тоні Старка**.
Што ты такое кажаш?
А што ты хацела? Ва ўсім свеце ў газетах публікуюць, як ты падлашчваешся да Капітана Амерыкі і бегаеш па крамам. Ты выставіла мяне на **пасмешышча**.
Ён бы не адносіўся да табе адпаведным чынам у адказ, калі б ведаў, **якая** ты... не хочу больш **казаць** на гэту тэму.
Што ты хочаш **гэтым** сказаць?
Паглядзім: азіятка? Карантышка? Гробаны малекулярны біёлаг?
Дурніца, ты ж **мутант**.


Цікава, ці жадаў бы ён мець з табой справы, ведаючы, што ты ела гусеніц і жукоў, пакуль была лічынкай, ва ўтрапёнасці мутанта?
На тваю думку, яны б лічылі цябе прыгажуняй, калі б ведалі, што кожныя шэсць тыдняў у ложку з'яўляюцца яйкі?
І ведаеш, а я павінен жыць з гэтым, Джэн! І твая гігіена часам мяне бянтэжыць.
Ніколі не заўважала, каб ты скардзіўся з гэтай нарады, калі браў гэтую сілу і вялікі заробак у Абароне, Хэнк.
Нават калі ты выкарыстоўваў мае спробы крыві для хуткай апрацоўкі дадзеных для формулы Волата.
Ды што ты наогул ведаеш, дрэнь? Лічыш, я б не змог прыдумаць самастойна гэтую формулу?
О, дык вы ж у нас разумнік! Вам не дастаткова таго, што вы эксперт у кібернэтыке, вам яшчэ трэба быць славутым у вышэйшай генэтыке, ці не так?
Што ж, паглядзім, колькі суперсалдат ты стварыў і колькі мурашак пад уладай твайго глупага шлема, прытырак?
Брус Банэр нашмат разумнейшы за цябе, і ты ніколі не дасягнеш яго ўзроўня!


О не.
Божа, Джэн. Прабач мяне.
Сонейка, проста паслухай...
Убяры ад мяне свае брудныя рукі!
УНГХ!


Ну і ў чым жа сутнасць усіх гэтых чутак пра **Сына Одзіна**, Тор? Ты на сам рэч **сапраўдны Бог** ці проста вялікі, страшэнны мужык з молатам?
Ну канешне ж **сапраўдны Бог**, Тоні.
Я даведаўся аб сваім паходжанні, калі мне было 12 гадоў, але гэта не было **нервовым засмучэннем**, якое ўсе мне **прыпісваюць**.
**Я** Бог, **народжаны чалавекам**... жывое ўвасабленне **Бога Грома**, пасланец з **Валхаллы** на Зямлю, каб яе ачысціць.
Лічыш, нам трэба **ачысціцца**?
**Азірніся**, Капітан... Ваш свет аббіраюць як ліпу, у той час, як людзі становяцца зомбі з-за **рэаліці-шоў** і **гульнявых прыставак**.
Я тут, каб абудзіць усіх вас перш, чым вы трапіце ў **забыццё**.


Няўжо ты не збіраешся далучыцца да **Альцімэйтс**? Гэта было б добрай кропкай апоры для **далейшых** дзеянняў.
Не, далучаючыся да **Альцімэйтс**, я пачынаю судзейнічаць ваенна-індустрыяльнаму комплексу, які выплочвае вам грошы, Тоні.
Мяне не цікавяць ні грошы, ні папулярныя часопісы, і звычайнае жыццё суперзорак, якія прапануюць вам, каб вы рызыкавалі сваімі жыццямі.
Я так скажу: калі патрэбна дапамога, толькі **паклічце** мяне і я прыйду. Але толькі, калі **людзям** сапраўды пагражае штосьці.
Выдатна.
Што **гэта** значыць, Капітан?
Такім чынам, ты ў нас **бясплатна**.


АЙ!
Дура, ты мне скуру пракусіла!
Навошта ты так робіш, калі ведаеш, што табе ж **горш** будзе?
Ідзі лесам!
Гэй! Сунаміся. Ніякіх здольнасцяў. Ніякіх...
Хто сказаў?
Ай! Ай! Ай! Ай! Ай!
О не.
О так!
Ну і як табе, Джэн? Пячэ вочы? Буду мець рацыю, калі скажу, што табе зараз дрэнна як ніколі раней.
Гэй! Куды ж ты?
А ну вярніся і закончы тое, што **пачала**!
Не лічаш жа ты, што не змагу да цябе дабрацца толькі з-за таго, што ты схавалася **пад сталом**?
Я ж знаходлівы хлопец, згодна?



Хэнк! Бяру свае словы назад! Спыніся, пакуль не стала ўсё сур'ёзна! Я прашу прабачэння! Я памылілася! Я разумею сваю віну і не павінна была пачынаць гэта!
Прашу прабачэння?
А хто-небудзь яшчэ чуе, акрамя мяне, пісклявую ўтрапёнасць нейкай дробязі з-пад стала?
HAAAANK!!
Ніколі не рабі з мяне прытырка, Джэн.
Ніколі не рабі з мяне прытырка.
А што накont цябе, Тоні? Навошта ты вырашыў уступіць у гэта шаленства? Сяброўства ў камандзе табе дае якія-небудзь прывілеі перад падаткавікамі?
Ха, нажаль, не, Тор.
А я лічу, што гэта ўсё з-за дзяўчынак. Толькі гэтым ты і цешышся тут, Тоні? Жалезны чалавек – гэта толькі прыкрыццё для таго, каб зрабіць уражанне на дзяўчын?
Не, не. На гэты раз ужо не, Кэп.
Што ж тады?
Ты сапраўды хочаш ведаць?
Што ж...
У мяне пухліна ў мазгу, рабяты... памерам з мячык для гольфа, прама вось тут...
...і дактары лічаць, што гэта немагчыма вылячыць.


Гэта жарт? З вобласці іроніі, якую я ніколі не зразумею?
І як доўга гэта ў цябе, Тоні?
Калі верыць спецыялістам, ад шасці месяцаў да пяці гадоў.
Адсюль і дабрачыннасць, і рызык уласным жыццём кожны дзень, і спроба зрабіць свет лепш.
І гэтак далей, і гэтак далей...
Прабачце, што засмучаў вас гэтай тэмай...
Але добра табе. Самі ж спыталі.
Што ж хутка, відаць, гэтая атмасфера мяне скане.
Джарвіс, дазволю табе парушыць гэтую цішыню тым, што ты прынясеш зараз падарунак, які я знайшоў для Капітана Амерыкі.
Што?


Што ж ты хочаш падараваць мне, Старк?
Ды так, адна з вар'яцінак, са старой калекцыі, якую давялося захаваць, Роджэр. Упэўнены, што гэта самае лепшае з таго, што ты бачыў тут.
Ну як табе?
**Адкуль** ён у цябе?
Статная, у гадах жанчына, якую завуць **Элен Кавальскі**. Яна сказала, што яе бацька пасля **вайны** прынёс гэта дадому і што гэта калісьці прыналежыла **знаёмаму**, адважнаму чалавеку.


Божа.
Я... Я нават ня ведаю, што сказаць.
Проста скажы які-небудзь **тост**. Тосты **заўсёды** да месца... напэўна з-за таго, што яны прамаўляюцца пасля значнага спажывання **алкаголю**.
Гэта ваш дом і вашы куфлі, Тоні. У гонар каго ж тады тост?
У гонар **сяброў**, якіх няма сярод нас.
За Хэнка, Джанэт і пакутніка Бруса Банэра, сяброў...
...без якіх, скажу я вам, мы б не стаялі тут і не падымалі гэтыя куфлі.


Божа, **Джэн**...
...што ж я **нарабіў**?